№ 1-2 СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ
JANVIER—FEVRIER 1927



# БЮЛЕТЭНЬ

ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА
ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

SOCIÉTÉ DE LA CROIX ROUGE
DE LA RUTHENIE-BLANCHE
BULLETIN DE LA COMITÉ CENTRAL

МЕНСК MINSK

# ЗЬМЕСТ.



## Афіцыяльны аддзел.



## Хроніка.



## Па саюзных таварыствах.



## У НК Аховы Здароўя БССР.



## Міжнароднае жыцьцё.



## Фізкультура і піонэрскі рух.

БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

Société de la Croix Rouge de la Ruthènie—Blanche
Bulletin № 1—2 (4—5)—1927.




# БЮЛЕТЭНЬ

**№ 1—2 (4—5)**

Студзень—Люты
1927 г.

КОШТАМ ЦК БЕЛАРУСКАГА Т-ва ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ
МЕНСК 1927

# Чырвоны Крыж і краязнаўства.

У некаторых нашых працаўнікоў паўстала думка,—якое дачыненьне мае Чырвоны Крыж да вывучэньня краю. Ім здаецца, што задача яго—вазіцца з усялякага роду больніцамі, амбуляторыямі, гурткамі першай дапамогі, а ня траціць час на вывучэньне мясцовых умоў жыцьця, быту і г. д. Зразумела, такі вузкі, абмежаваны погляд можа тлумачыцца толькі неразуменьнем тых аграмадных культурных задач, якія стаяць перад Чырвоным Крыжам.

Што-ж сапраўды выяўляе сабою Чырвоны Крыж? Трэба даць сабе ясны адказ аб сутнасьці гэтага Т-ва. Дзеля чаго яно створана? Ці Чырвоны Крыж патрэбен толькі на выпадак вайны, ці гэта—культурнае аб'яднаньне рабочых і сялян для садзейнічаньня савецкай ахове здароўя ў будаўніцтве новага быту? Савецкая ўлада ня імкнецца да вайны, яна толькі бароніцца, і мэтоды яе абароны рэзка розьняцца ад буржуазных прыёмаў. Мы ня хочам вайны, але ведаем, што яе нам ня ўнікнуць пакуль існуе варожае нам абкружэньне. Наша абарона складаецца ня толькі з павялічэньня тэхнічных запасаў Чырвонае арміі, але, галоўным чынам, будуецца на ўмацаваньні культурнай і гаспадарчай моцы Савецкага Саюзу. Бяз моцнага тылу, бяз арганізаванае рабочае клясы і бяз культурнага ўздыму сялянскае гаспадаркі—нельга мірна будаваць социялізм, бо ворагі нашы ня сьпяць і шукаюць прычэпкі, каб сарваць нашу мірную работу.

Перш чым будаваць які небудзь мэдычны пункт, трэба даведацца, дзе лепш і з большаю карысьцю ён можа быць скарыстаны, а гэта магчыма толькі пры ўмове поўнай яснасьці санітарнага стану рэспублікі. Затым удзел Чырвонага Крыжу ў культурным будаўніцтве зьяўляецца абавязковай умовою для правільнага вырашэньня пытаньня аб ролі Чырвонага Крыжу, як соратніка Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя ў барацьбе за здаровы быт.

Беларусь вельмі бедна вывучэньнем. Аб ёй мала думалі ў эпоху царызму. Яна была краінай вечнага ўціску. Уся прыбытковасьць гаспадаркі была пабудавана на страшэннай экс-

плёатацыі сялян панамі. Зараз-жа, калі мы з малымі сродкамі хочам даць селяніну максымальную магчымасьць падняць культурна гаспадарку, трэба накіраваць усе сілы на вывучэньне мясцовага прыроднага багацьця. Шмат у каго злажылася ўражаньне аб Беларусі, як аб краіне сталых туманаў, з вялізарнымі балотамі і вялікімі лясамі на пескавых глебах. Але-ж гэта далёка ня так. Па тых папярэдніх матар'ялах, якія сабраў Народны Камісарыят Аховы Здароўя пры дапамозе Чырвонага Крыжу, можна лёгка давесьці зусім іншае. Беларусь мае шмат добрых мінэральных крыніц серна-жалезістага тыпу, вельмі добрыя вазёры з добрым пескавым пляжам, з хвойным лесам навакол. Нават наша тарфяная гразь па сваёй якасьці нічым ня горш лекавай гразі Адэскіх ліманаў.

Вялікія практычныя пэрспэктывы мае вывучэньне эпідэмічных крыніц наогул і соцыяльных хвароб у прыватнасьці. Гэта дазваляе злажыць эпідэмічную мапу распаўсюджаньня галоўных інфэкцый.

Расавы тып беларусоў і іншых нацыянальнасьцяй нашае Рэспублікі таксама мала высьветлен у літэратуры і зьяўляецца вельмі цікавым для вывучэньня працоўнае сілы. Умовы жыцьця беларускага сялянства і местачковага яўрэйства зьяўляюцца вялікім матар'ялам для навуковага дасьледваньня, на падставе якога можна будзе праводзіць аздараўляючыя мерапрыемствы.

Нарэшце, мы ня маем нават хоць-бы кароткае гісторыі разьвіцьця аховы здароўя, а гэта таксама дае багаты матар'ял для параўнаньня таго, што было раней і што зрабіла Савецкая ўлада.

Але пералічыўшы ўсе гэтыя краязнаўчыя задачы, нам скажуць, чаму-ж усё гэта ня возьме на сябе Народны Камісарыят Аховы Здароўя—гэта-ж яго просты абавязак. Тэорэтычна гэта так і ёсьць, але на практыцы мы ведаем, што наша дзяржава яшчэ бедная, што яна ня можа ўзяць на сябе многа і што ў такіх выпадках з дапамогаю павінна прыходзіць савецкая грамадзкасьць. Тым і моцна пролетарская дзяржава, што ў ёй вялікае значэньне маюць грамадзкія сілы і толькі пры іх падтрыманьні мы дасяглі аграмадных посьпехаў, на якія са зьдзіўленьнем глядзяць заходня-эўропейскія працоўныя.

І затым Чырвоны Крыж, як вельмі блізкая Нар. Кам. Аховы Здароўя грамадзкая організацыя, павінен прыйсьці на дапамогу апошняму ў яго культурных імкненьнях.

Выданьне „Беларускай Мэдычнай Думкі",—адзінае ў Беларусі санітарна-краязнаўчае часопісі, і іншых работ па санітарнай характарыстыцы краіны, павінна прыцягнуць увагу Чырвонага Крыжу. Чырвоны Крыж ня можа і не павінен пакінуць без матар'яльнай дапамогі такую важную і патрэбную справу.

Чым мацней і больш організавана пойдзе Чырвоны Крыж на сустрэчу выяўленьня ўсіх нацыянальна-бытавых асаблівасьцяй краіны, тым лягчэй будзе Народны Камісарыят Аховы Здароўя праводзіць свае профілактычныя мерапрыемствы; тым мацней, здаравей будзе наш тыл у часе вайны. Трэба пажадаць, каб і ў будучым глыбей і шырэй разьвівалася культурна-нацыянальная работа Чырвонага Крыжу, бо гэта будзе лепшым, верным сродкам згуртаваньня навокал Чырвонага Крыжу рабоча-сялянскага актыву.

**М. Барсукоў.**

# Як прайшоў III-ці Пленум Цэнтральнага Камітэту Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу.

2-го лютага 1927 г. адбыўся ў Менску III-ці Пленум Цэнтральнага Камітэту Беларускага Чырвонага Крыжу, на якім было прысутна 27 членаў. На парадку дзённым Пленуму галоўным пытаньнем быў даклад аб дзейнасьці ЦК у пэрыод часу з верасьня 1926 г. па люты 1927 г.

Гэты даклад склаўся з трох частак:

а) справаздачнага дакладу аб організацыйнай працы ЦК, зробленага нам. старшыні ЦК А. Цьвікевічам;

б) садакладу аб матар'яльным становішчы ЦК (балянс на 1-ае кастрычніка 1926 г.), зробленага т. І. Асятровым;

в) садакладу Рэвізыйнай Камісіі, зробленага т. С. Вашкевічам.

Апрача таго на Пленуме быў заслухан даклад т. Нэхаміна і т. Магаршака аб становішчы Віцебскага і Полацкага Камітэтаў Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу.

Дакладчык А. Цьвікевіч з патрэбнай паўнатой застанавіўся на аглядзе працы як Прэзыдыуму, так і Бюро ЦК. За справаздачны пэрыод адбылося 12 пасяджэньняў Бюро, на якіх вырашана 188 пытаньняў. У галіне організацыйнай,— праца ЦК адзначылася пэўнымі дасягненьнямі ў сэнсе больш спагадных адносін да Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу з боку савецкіх, партыйных і профэсыянальных устаноў, а таксама з боку савецкага грамадзянства наогул. Лік сяброў Т-ва за гэты час значна вырас і дасягае да 12.000 асоб. Згодна пастановам 2-й Сэсіі Саюзу Т-ваў Чырвонага Крыжу і Паўмесяца ў Маскве, вайскова-санітарныя задачы пастаўлены на першы плян дзейнасьці Т-ва. На першым месцы ў гэтай справе ідзе Менскі Акруговы Камітэт, які адчыніў курсы ваенна-санітарнай падрыхтоўкі. Бюро ЦК дала адпаведныя інструкцыйныя ўказаньні на гэтую тэму ўсім акруговым камітэтам, прагледзіла і разаслала ім програмы сан-

курсаў. У мэтах стварэньня 1-ай санітарнай аўто-калёны, ЦК набыў 2 аўтомобілі „Fiat“, усталіў неабходны контакт з Авіахімам, Сан. Упраўл. Бел. Вайск. Акругі і г. д. У даны момант апрача Менску, вайскова-санітарныя курсы організуюць Віцебск, Барысаў і Бабруйск.

ЦК зьвярнуў асаблівую ўвагу на разьвіцьцё мясцовых ячэек Т-ва. З гэтай мэтай апрацован і організован конкурс на лепшую ячэйку (гл. ніжэй стар. 18). Рэзультаты конкурсу будуць вядомы на вясну гэтага году і будуць мець дадатны ўплыў у сэнсе акрэсьленьня складу ячэек, іх заданьняў і мэтодаў працы.

Пэўныя дасягненьні маюцца ў сэнсе ўсталеньня больш шчыльнага контакту з фізкультурным і піонэрскім рухам у БССР. У Бюро ЦК адбылося некалькі пасяджэньняў з прадстаўнікамі Вышэйшага Савету Фізкультуры, вынікам чаго зьявілася заснаваньне пры ЦК асобнай „Камісіі Садзейнічаньня Фізкультурнаму і Піонэрскаму Руху“ у Савецкай Беларусі. Апрацавана адпаведнае „Палажэньне“ аб структуры і мэтах Камісіі, асыгнаваны ў яе распараджэньне патрэбныя сумы грошай і г. д. Супрацоўніцтва абедзьвюх організацый— Чырвонага Крыжу і Фізкультуры—разумеецца пры гэтым як пропаганда чырвонакрыжных ідэй сіламі фізкультурных і піонэрскіх організацый і ўцягненьне праз іх новых членаў у сябры Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу; а з боку Бел. Чырвонага Крыжу—матар'яльная і санітарна-мэдычная дапамога фізкультурнай і піонэрскай справе.

У выкананьне § 7-га пастановы 2-га Пленуму ЦК аб удзеле ў барацьбе з соцыяльнымі хваробамі, за справаздачны пэрыод заснавана пры ЦК „Камісія дапамогі псыхічна-хворым“ і „Камісія па барацьбе з ракавымі хваробамі“. Першая з гэтых камісій пад старшынствам проф. А. Ленца ўжо разгарнула сваю дзейнасьць, атрымала і перадала псыхіятрычнаму аддзяленьню 2-й Савецкай Больніцы цёплую бялізну для хворых, організавала дзьве публічныя лекцыі, апрацавала плян працы ў правінцыі і г. д.

Што датыча пытаньня аб барацьбе з простытуцыяй, дык ранейшая думка аб заснаваньні Цэнтральнага Савету па барацьбе з простытуцыяй пры ЦК Чырвонага Крыжу, на адным з пасяджэньняў Бюро адхілена. Сёньня гэты „Савет“ організаваўся пры Народным Камісарыяце Аховы Здароўя, прычым Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу зьяўляецца адным з членаў гэтага Савету.

За справаздачны пэрыод Бюро ЦК праводзіла чарговыя абсьледваньні працы мясцовых камітэтаў. З верасьня 1926 г. па люты 1927 г. былі абсьледваны Магілеўскі, Калінінскі, Віцебскі і Полацкі акруговыя камітэты, прычым Бюро прыняла ў стасунку да некаторых з іх неабходныя меры, скіраваныя на палепшаньне іх дзейнасьці.

Што датыча пастановы 2-га Пленуму аб цэнтралізацыі справы барацьбы з дзіцячай бяспрытульнасьцю і, наогул, дапамогі дзецям, дык яна па шмат якіх прычынах не рэалізавана. Аднак, жыцьцё вымагае свайго—і, як аб гэтым засьведчылі прадстаўнікі Калінішчыны і Полаччыны, на мясцох, у правінцыі ўжо праводзіцца аб'яднаньне працы камітэтаў Чырвонага Крыжу з ворганамі дапамогі дзецям. Безварункова, пытаньне аб поўным аб'яднаньні гэтай справы зьяўляецца толькі пытаньнем часу.

Выдавецкая чыннасьць ЦК Бел. Т-ва разьвівалася за справаздачны пэрыод нормальна: выдан агітацыйны плякат, які зьвярнуў увагу 2-й Сэсіі Савету ў Маскве сваёй добрай кампозыцыяй; выдана брошура „Зубы" і чарговы № Бюлетэню; выданы паштоўкі і г. д. Выдавецкі аддзел прымаў бліжэйшы ўдзел у некаторых выданьнях Нар. Кам. Аховы Здароўя („Мэдычная Думка", „Справочник Медицинской сети" і інш.). У бліжэйшы час мае быць выдана спэцыяльная літэратура па фізкультурных пытаньнях і брошура аб вушных хваробах.

З мэтай больш дасканальнага і сыстэматычнага падліку сяброў Т-ва, Бюро ЦК апрацавала і правяло ў жыцьцё новую форму падліку, па якой ужо вядзецца праца на мясцох.

У выніку ўсіх прынятых мерапрыемстваў, Бюро ЦК разам з адпаведнымі акруговымі Камітэтамі можа зазначыць шэраг рэальных дасягненьняў на мясцох (пералічэньне іх гл. ніжэй у „Рэзолюцыях Пленуму").

Ня менш інтэнсыўна праводзілася праца Цэнтральнага Камітэту і ў галіне гаспадарчай. Як на галоўнае дасягненьне ў гэтым кірунку трэба паказаць на пастанову Экономнарады БССР аб распаўсюджаньні на гандлёвыя прадпрыемствы Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу правоў коопэрацыйных прадпрыемстваў (гл. „Бюлетэнь" № 2—3, стар. 38). Прыходзіцца пры гэтым зазначыць, што большасьць нашых магазынаў пакуль што ня выкарысталі гэтай пастановы і што матар'яльны іх стан нездавальняючы. Згодна з указаньнямі Бюро часткай ужо ліквідаваны, а часткай хутка будуць ліквідаваны гандлёвыя прадпрыемствы Полацкага Камітэту, Мазырскага і Менскага, якія маюць унівэрсальны, ці неадпаведны мэтам Чырвонага Крыжу характар. Наадварот, у Магілеве абсталёўваецца завод газавых вод, а ў Слуцку і Менску—магазыны санітарыі і гігіены. Апошняй справе мае між іншым дапамагаць Іспалком Саюзу Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў, якому 2-я Сэсія Савету дала адпаведную дырэктыву.

Старыя даўгі Цэнтральнага Камітэту розным фірмам усё яшчэ ў большай частцы не ліквідаваны. У справе „Мосторга" Бюро ЦК узьняло хадайніцтва перад вышэйшымі органамі БССР аб ліквідацыі запазычанасьці „Мосторгу" шляхам сьпісаньня доўгу.

За справаздачны пэрыод ЦК прыняў удзел у 2-й Сэсіі Савету Саюзу Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў і ў 1-м Зьезьдзе Расійскага Т-ва Чырвонага Крыжу ў Маскве. Агляд працы 2-й Сэсіі дан асобна (гл. артыкул аб гэтым ніжэй). Беларускае Т-ва зрабіла на гэтай Сэсіі інформацыю аб сваёй працы, высунула пытаньне аб скліканьні Ўсесаюзнага Зьезду Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў, прымала бліжэйшы ўдзел у вырашэньні пытаньняў аб цэнтралізацыі чырвонакрыжных рэгалій і г. д. У склад новага Іспалкому Саюзу на Сэсіі былі абраны два прадстаўніка ад Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу: М. Барсукоў—як член Іспалкому і А. Цьвікевіч—як кандыдат Рэвізыйнай Камісіі.

Нормальна разьвівалася дзейнасьць Цэнтральнага Камітэту ў галіне міжнародных зносін і інформацый. У Бэрне выдадзена д-рам С. Багоцкім брошура аб дзейнасьці Савецкіх Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў, у якой дадзен інформацыйны агляд працы Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу. Агляд гэты вышаў таксама асобным адбіткам. Апрача таго, інформацыі аб дзейнасьці Беларускага Чырвонага Крыжу былі зьмешчаны і ў міжнародным аглядзе Чырвонага Крыжу (Vers la Santé).

Барацьба за прызнаньне Беларускага Чырвонага Крыжу, разам з прызнаньнем іншых нацыянальных Чырвоных Крыжоў, адбывалася за справаздачны пэрыод далей. Міжнародны Камітэт увесь час стаіць на пункце погляду прызнаньня толькі Саюзу Савецкіх Т-ваў Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў, а Іспалком Саюзу дабіваецца прызнаньня кожнага нацыянальнага Т-ва паасобку. Пытаньне гэта застаецца да гэтага моманту нявырашаным.

Таксама застаецца нявырашаным пытаньне аб адносінах Савецкіх Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў, у тым ліку Беларускага,—да Лігі Чырвоных Крыжоў у Парыжы. За гэты час конфлікт паміж ёй і Міжнародным Камітэтам ня вырашыўся і Белар. Т-ва, разам з іншымі організацыямі Чырвоных Крыжоў, застаецца ў гэтым конфлікце нэйтральным.

Па прапазыцыі і пры пасрэдніцтве д-ра Багоцкага Цэнтральны Камітэт пачаў абмен інформацыйным матар'ялам з Чэха-Славацкім і Паўднёва-Слаўскім Чырвонымі Крыжамі. На чарзе стаіць пытаньне аб ажыцьцяўленьні інформацыйных зносін з Літоўскім і Латвійскім Т-вамі Чырвонага Крыжу.

Карыстаючыся падарожжу д-ра Ліфшыца на санітарна-гігіенічныя курсы ў Парыжы, ЦК даў яму асобнае пасьведчаньне на блянку Міжнароднага Камітэту (Carnet d'identité) і даручэньне зрабіць візыты ў Польскі, Нямецкі і Францускі Чырвоныя Крыжы і інформаваць іх аб дзейнасьці Бел. Т-ва.

За мінулы час Беларускае Т-ва Чырвонага Крыжу ўступіла сябрам у Міжнародную Асоцыяцыю Дапамогі Дзецям („Union Internationale de Secours aux Enfants“) і ўнесла ў яго

касу належны ўзнос. У журнал Асоцыацыі паслан матар'ял аб становішчы справы дапамогі дзецям у БССР.

Што датыча дапамогі бяднейшаму жыхарству і дзецям Заходняй Беларусі, дык у зьвязку з апошнімі падзеямі ў Вільні, гэта дапамога пакуль што затрымалася. Аднак Цэнтральны Камітэт зазначыў на Пленуме, што ён лічыць сваім чырвонакрыжным абавязкам у самай бліжэйшай будучыне ўзнавіць сваю дапамогу церпячаму насельніцтву Заходняй Беларусі, асабліва прымаючы пад увагу той голад, які зьяўляецца вынікам недароду 1926 году.

**А. Цьвікевіч.**

## 3-me Plenum du Comité Central de la Croix Rouge de la Routhénie-Blanche.

Au m. de Février 1927 eut lieu le 3-me Plenum du Comité Central de la Croix Rouge de la Ruthénie-Blanche, où fut lu le rapport des travaux accomplis par la Société à partir du mois d'Octobre 1926 jusqu'au mois de Février 1927. Le rapport constata le développement marqué de la Société pendant cette période. On organisa d' abord le socond cabinet mobile de dentiste, puis un dispensaire pour les paysans tuberculeux à Ostroschitzky Gorodok; on inaugura un patinage à Borissow; on èntreprit l'organisation d'un laboratoire technique de dentiste à Bobrouisk, enfin on créa des salles sportives à Mozyr et à Borissow.

La propagande des idées de la Croix Rouge fut transpotée dans les sections de la Société se trouvant dans les provinces et dont le nombre peut être évalué à plusieurs dizaines dans chaque district. Auprês du Comité Central fut organisée une «Commission de secours aux malades atteints d'aliénation mentale». Cette commission fut pourvue de vêtements chauds pour une somme de 1000 roubles. Elle organisa deux Référés qui apportèreut une somme de 200 r. On istitua une «Commission pour combattre les maladies de cancer».

Pendant ce laps de temps la Société de la Croix Rouge Blanche-Ruthénienne a pris part à la Seconde Conférence de l'union des Sociétés des Croix Rouges et des Croissants R., ainsi qu' à la 1-re Assembleé de la Société de la Croix Rouge de la Russie.

Au mois de Novembre le Comité Central reçut la visite de M-r Yane Raïniss—poête national de la Lettonie et celle du professeur M-r Birgizchka,—Recteur de l' Université de la Lithuanie qui promirent de participer à l'union de la Croix Rouge Blanche-Ruthénienne avec celle de la Lithuanie et de la Lettonie.

La polémique pour la reconnaissance de la Croix Rouge Blanche-Ruthénienne continuent encore. Le Comité International

ne veut pas consentir jusqu'à présent à reconnaître la Croix Rouge Blanche-Ruthénienne comme une Société indépendente, ce qui entrave beaucoup le travail de cette dernière. Le Comitè Central s'associa aux membres de la Société Internationale du Secours aux Enfants et versa dans sa caisse le paiement obligatoire.

Pendant la période comptable, la Société Blanche-Ruthénienne a prêté secours: aux enfants de la Ruthénie-Blanche Occidentale pour une somme de 1000 roubles, aux habitants de Leninakan désolé par un tremblement de terre—500 r., aux habitants de la Dalmatie atteints par la même calamité—300 r.

Des «carnets d'identité» ont été reçus du Comité International de Genève; le membre de la Société Blanche-Ruthénienne M-r le docteur Lifschitz en profita pour se rendre à Paris afin d'y suivre les cours sanitaires et hygiéniques.

---

# 1-й Подвижной Вендиспансер имени ЦК Белорусского О-ва Красного Креста на работе в Оршанщине.

По окончании работы в Круглянском районе, венотряд был переброшен в начале мая в село Ново-Тухинь, Дубровенского района.

В РИК'е, совместно с председателем его замокрздравом и местными врачами, было решено несколько замаскировать наименование отряда, с целью привлечения большего количества больных, а посему в извещениях, разосланных РИК'ом во все сельсоветы сообщалось, что отряд прибыл для лечения болезней „носа, горла, венерических и кожных“ с указанием места его пребывания.

9 мая венотряд приступил к работе при Ново-Тухинском врач. пункте, где нет врача уже около 3-х лет. Работа началась с общего амбулаторного приема. С прибытием отряда начался наплыв в амбулаторию пункта больных, которые, узнав о приезде врача, настоятельно требовали его совета, причем с первого же дня началась регистрация сифилитиков и дня через 2—3 у отряда создалась своя амбулатория, для чего ему было предоставлено помещение в здании пункта.

Ввиду того, что помимо лечения отряду предстояло провести подворное обследование всего Ново-Тухинского сельсовета, что больные не могли часто посещать приемы из-за дальности расстояния, и главным образом из-за полевых работ—были назначены 3 приемных дня в неделю. В другие дни недели делались обследования, а также производились лабораторные работы по исследованию крови.

В состав Ново-Тухинского сельсовета входит 10 селений, из которых 6 хуторских и 4 деревни. Во всех этих селениях

осмотрено 2.261 чел. в 465 хозяйствах и обнаружено 124 чел. больных сифилисом в различных его периодах, кроме первичного. Кроме того, в совхозе „Холовье“ осмотрены 84 чел. рабочих и служащих в 26 семьях.

Наибольшее количество больных обнаружено в деревнях К. и Р. В первой на 204 чел. обследованных в 41 дворе выявлено сифилитиков 41 чел., во второй осмотрено 225 чел. в 44 хозяйствах и обнаружено 38 больных.

Появление инфекции в К. и Р. можно отнести к 1914-15 г. г., когда в этих деревнях, особенно в первой, квартировали узбеки и китайцы, привезенные в эту местность для заготовки лесного материала. Дальнейшее распространение сифилиса относится ко времени империалистической и гражданской войны. Надо заметить, что селение Р. сравнительно недавно расселилось на хутора (лет 5 тому назад), до того же представляла собой деревню. Принимая во внимание условия крестьянского быта, когда имеется возможность более частых соприкосновений, как между взрослыми, так, особенно между детьми, станет понятным довольно высокий процент заболеваемости в упомянутых выше деревнях (20% К. и около 17% Р.). Поселки, расселившиеся на хутора 17 и более лет тому назад, дают небольшие цифры—одно селение на 281 чел. обследованных в 55 хозяйствах—5 больных; другое—при 136 обследованных в 31 хозяйстве—4 человека, при этом заболевание наблюдается или в одной семье или двух—трех, состоящих в близком родстве.

Обследование производилось везде исключительно с согласия самих крестьян. В каждом селении предварительно проводилось собрание, на котором делался краткий доклад о Белорусском О-ве Красного Креста, на средства которого функционирует венотряд, читалась лекция по венболезням с волшебным фонарем и демонстрацией плакатов, после чего предлагалось провести у них обследование. Вопрос о поголовном осмотре решался всегда утвердительно, но при этом выражалось желание знать о результатах его. Это, к сожалению, в большинстве случаев нельзя было выполнить, чтобы не отпугивать больных от амбулаторного приема. Случалось, что и на амбулаторный прием являлись отдельные лица, с требованием сообщить фамилии лечащихся односельчан, об‘яснявшие свою настойчивость боязнью заразиться. Они также получали отказ с раз‘яснением профилактических мер предосторожности. Практически такой подход дал хорошие результаты: при обследовании почти не наблюдалось укрывательства со стороны больных и приток новых из других сельсоветов увеличивался.

В деревнях осмотр производился в каждом доме, на хуторах же, ввиду их разбросанности на значительном расстоянии друг от друга, население обследовалось по участкам,

для чего несколько семейств собиралось в один дом, причем каждая семья осматривалась отдельно.

Об отношении населения к обследовательской работе можно судить из следующих фактов: в то время, пока отряд работал в одном селении, крестьяне соседней деревни на сходе делали постановление произвести у них осмотр и с нетерпением ожидали своей очереди. Интерес к обследованию наглядно выражался все более нароставшей посещаемостью амбулатории отряда. Так, например, за 15 приемных дней мая месяца прошло всего больных 403 чел., из которых первичных 142;

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| за | 12 | дней | июня | всего | 1.275, | из | них | первич. | 123 |
| „ | 13 | „ | июля | „ | 743, | „ | „ | „ | 44 |
| „ | 13 | „ | августа | „ | 470, | „ | „ | „ | 40 |
| „ | 12 | „ | сентября | „ | 283, | „ | „ | „ | 16 |
| „ | 7 | „ | октября | „ | 47, | „ | „ | „ | — |

Из всего этого количества первичных больных 323 человека получали комбинированный курс ртутно-иодисто-новарсоланного лечения.

Излечение тяжелых форм сифилиса у нескольких больных в сравнительно короткое время (2—3 недели) создало отряду популярность среди населения. Приходилось наблюдать явления такого рода: вдруг появлялся ряд больных с локализацией поражений на одном месте—оказывается лечащиеся у нас собирают и направляют из разных мест знакомых и родственников с аналогичными страданиями, причем вновь приходящие указывают, кем они направлены.

Преобладающее большинство прошедших через амбулаторию венотряда больных лечилось только у „знахарей“ и „бабок“. Большим авторитетом среди них пользовался „дед“, живший в селе „Бель“, верстах в 20—25 от Ново-Тухины. Все, обращавшиеся, получали от него раствор синеватого цвета, называемый больными „синим камнем“, который служил, как для наружного, так и для внутреннего употребления, причем для последней цели указывалось разводить водой в известной пропорции. К сожелению, не удалось приобрести этих препаратов, а также посетить этого деда, умершего незадолго до приезда отряда. По рассказам, он являлся преемником своего отца, бывшего санитара при французском враче в войну 1812 г.

„Бабки“, пользующие „наговорной водой“ встречались и среди наших пациенток—одна из них, у которой был явный гуммозный сифилис, обещала впредь не заниматься лечением уже по одному тому, что попав в число больных венотряда, навсегда скомпрометировала свою репутацию.

Из всего количества лечившихся при отряде больных 85% закончило полный курс лечения, 11,5% не довело до

конца по своему желанию, а 3,5% не успели закончить лечения ввиду от'езда венотряда.

Принимая во внимание трудность выяснения способов заражения при собирании анализа, можно дать приблизительные цифры в процентном отношении: на бытовой сифилис приходится около 50%, 18% врожденного, остальные падают на половой и невыясненный, причем первого вдвое больше.

По социальному составу все больные крестьяне; по национальности только 13 человек русских, остальные—белоруссы.

Из медикаментов у отряда имелся свой новарсолан; ртутные и другие препараты отпускал Оршанский Окрздрав.

Помимо санитарно-просветительной, обследовательной и лечебной работы, отрядом велась и лабораторная: производилось исследование крови по Meinick (Meinicke Trubungsreaktion), главным образом у членов семейств, где обнаруживались больные или посредством обследования, или на амбулаторном приеме, а также в сомнительных случаях клинического диагноза и у лиц, присланных из района для консультации.

Наличие в отряде своей походной лаборатории имеет большое значение в смысле выявления скрытого сифилиса. Иногда наблюдалось, что только в случаях положительного результата реакции крови больные вдруг начинали подробно описывать симптомы болезни в прошлом, о которых до того умалчивали или сознательно, или не придавая им существенного значения. Были и такие случаи, когда лица, вызванные для взятия крови, на все вопросы упрямо отвечали „отгадайте сами, на то вы и доктор" и только положительный результат анализа развязывал язык такого рода пациентов.

Всего произведено 386 анализов.

Работа отряда в целом вызвала вначале бурную реакцию со стороны населения: в разных местах создался ряд сифилофобов, причем один из них не задумываясь диагносцировал сифилис у своих односельчан на основании всякого рода кожных заболеваний вроде фурункулеза и т. п. Дело иногда доходило до судебных процессов, по большей же части подобные конфликты разрешались мирным путем в нашей амбулатории,—выдачей подозреваемым справок об отсутствии явлений сифилиса. Слово „пранцаваты" сделалось смертельным оскорблением в ссоре. Другие же находили у себя все признаки сифилиса и всячески добивались анализа крови.

В общем же эти отрицательные явления свидетельствуют о том, что в работе отряда население принимало активное участие. За это время в Р. и некоторых других селениях Н. Тухенского с/с построено несколько новых бань отдельными хозяевами, что необходимо безусловно связать с санпросветительной работой отряда.

Благоприятные результаты лечения привлекли на сторону советской медицины ту несознательную массу больных, которая до того была средством наживы для всякого рода „знахарей“. Многие из закончивших курс лечения неоднократно являлись с просьбой укоротить срок отдыха, будучи озабочены дальнейшей участью лечения с от‘ездом венотряда.

**М. Стерьхова.**

---

## 2-я Сэсія Савету Саюзу Таварыстваў Чырвонага Крыжу і Чырвонага Паўмесяца.

У Савецкім Саюзе, як вядома, ёсьць 4 таварыствы Чырвонага Крыжу: Беларускае, Расійскае, Украінскае і Армянскае і 3 таварыствы Чырвонага Паўмесяца—Азэрбайджанскае, Узьбекістанскае і Туркмэністанскае. Усе яны аб‘яднаны ў „Саюзе Таварыстваў Чырвонага Крыжу і Чырвонага Паўмесяца“. Саюз мае свае органы—Савет і Выканаўчы Камітэт (Іспалком). Савет—зьяўляецца вышэйшым органам Саюзу Таварыстваў. Саюз Таварыстваў плянуе праграму яго працы і даглядае за выкананьнем гэтага пляну. Іспалком—зьяўляецца выканаўчым органам Савету, на якім ляжыць уся практычная бягучая праца Саюзу Таварыстваў.

15—17 сьнежня 1926 г. у Маскве адбылася 2-я Сэсія Савету Т-ваў Чырвонага Крыжу і Чырвонага Паўмесяца. Ад Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу на сэсіі былі прысутны т. т. М. Барсукоў і А. Цьвікевіч. Першае пасяджэньне сэсіі было праведзена ў Крамлю пад старшынствам тав. А. С. Енукідзе, сталага Старшыні Іспалкому Саюзу.

А. С. Енукідзе прывітаў сэсію ад ураду СССР і застанавіўся над яе заданьнямі. „Урад СССР—казаў т. Енукідзе —прыдае вялікае значэньне Таварыствам Чырвонага Крыжу і Чырвонага Паўмесяца. Яны організуюць савецкую грамадзкасьць каля пытаньняў аздараўленьня быту насельніцтва і санітарнай дапамогі Чырвонай арміі на выпадак вайны. У гэтай апошняй, важнай задачы мы павінны аб‘яднаць усе сілы Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў, каб дабіцца максымальных дасягненьняў. Загранічная дзейнасьць павінна разьвівацца згодна з інтарэсамі асобных нацыянальных Таварыстваў. Маг-

чыма, што пакуль што матар'яльныя рэсурсы Саюзу Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў падзяляюцца паміж яго сябрамі няроўнамерна—гэта трэба выправіць. Магчыма, што і ўрад наш пакуль што ня йдзе на сустрэч Чырвоным Крыжам і Паўмесяцам, як гэта хацелася-б, але, як толькі палепшацца матар'яльныя варункі дзяржавы, яна пойдзе нам на сустрэч. Зразумела,—трэба спадзявацца перш за ўсё на свае сілы, на разьвіцьцё сваёй работы, на організацыю грамадзянства. Гэта—лепшая крыніца росту кожнага Т-ва і забясьпека яго добрай будучыны. У нас ёсьць свае недахопы, але яны часовыя. У сваёй далейшай працы мы іх агульнымі сіламі выправім. Яшчэ раз вітаю сэсію і жадаю ёй найлепшых вынікаў!"

Іншыя пасяджэньні сэсіі адбываліся ў памяшканьні Іспалкому (Б. Никитская, 54), пад старшынствам М. Барсукова, З. Салаўёва і А. Кязімава.

Сэсія заслухала справаздачу Выканаўчага Камітэту за 1925—26 г., даклад Рэвізыйнай Камісіі, даклад аб вайскова-санітарнай дзейнасьці Савецкіх Т-ваў Чырвоных Крыжоў і Чырвонага Паўмесяца, азнаёмілася з фінансавым становішчам паасобных членаў Саюзу, з бюджэтам Выканаўчага Камітэту і г. д.

Найбольшы абмен думак выклікалі пытаньні аб організацыі вайскова-санітарнай дзейнасьці Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў і пытаньне аб цэнтралізацыі ў Выканаўчым Камітэце чыгуначных рэгалій.

Па першым пытаньні прынята рэзолюцыя па дакладу З. Салаўёва—старшыні РОКК'а, якая зьвяртае ўвагу ўсіх Т-ваў Чырвонага Крыжу і Паўмесяца на патрэбу актыўнага разьвіцьця вайскова-санітарнай справы, заснаваньня як мага большага ліку вайскова-санітарных ячэек на мясцох і забавязвае нацыянальныя Чырвона-Крыжныя Таварыствы павялічыць процант бюджэтных адлічэньняў на гэту рэч да 15%.

Па пытаньні аб чыгуначных рэгаліях ухвалена сконцэнтраваць падлік усіх чыгуначных рэгалій, якія атрымліваюцца паасобнымі членамі Саюзу, у Выканаўчым Камітэце, даручыць контроль за зьбіраньнем іх Цэнтральным Камітэтам адпаведных Т-ваў і, да зацьверджаньня наступнай сэсіяй сталых адлічэньняў на карысьць фінансава-слабейшых Т-ваў, прыняць з 1/I-1927 г. адлічэньне ў 20% з агульнай сумы паступленьняў на карысьць Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу, ГОКК, АОКК, АЗОКП, ТУРОКП і УЗОКП.

Сэсія пастанавіла ўсе консульскія рэгаліі цэнтралізаваць у Саюзе і заснаваць асобны „саюзны фонд дапамогі пры стыхійных няшчасьцях".

Наогул трэба зазначыць, што праца 2-ой Сэсіі адбывалася вельмі жвава і дала паважныя вынікі.

**А. Цьвікевіч.**

# Наша подготовка.

Многогранные стороны характера будущей войны с преобладанием в ней действий с химическими веществами неминуемо повлекут за собой участие тылов в кровопролитной схватке с устрашающим количеством жертв убитыми, ранеными и газоотравленными.

Эта печальная перспектива кое-чему обязывает и краснокрестные организации: в предвидении будущей обстановки,— выдвигает неотложную задачу по подготовке широких масс населения к овладению практическими способами по оказанию помощи пострадавшим при несчастных случаях, а также по ознакомлению с основами личной и общественной противогазовой профилактики. Ликвидация неграмотности в вышеуказанных направлениях является существеннейшей задачей краснокрестной организации, устав которой предусматривает помощь в укреплении обороноспособности Союза Советских Республик. Создание обученного кадра, ухаживающего санитарного персонала, при первом „зове" готового оказаться у „дел"—вот ближайшая задача военной работы организации Красного Креста.



Минский Окружной Комитет Красного Креста в октябре месяце 1925 г. приступил к организации кружков первой помощи, развивая работу главным образом среди женщин на предприятиях, при клубах и непосредственно в учреждениях. В силу целого ряда об'ективных условий, работу пришлось начать без должной увязки с советскими и профессиональными органами, что в самом начале уже предопределило узкие рамки проводившейся работы. За период времени октябрь—январь было организовано шесть кружков с общим количеством свыше 150 слушательниц. В феврале месяце произошел перелом в благоприятную для усиления работы сторону: установлен контакт с другими заинтересованными организациями: женотделом, ОСО-АВИАХИМ, ЦБ Врачсекций, союзом Медсантруд и выработан единый план дальнейшей работы по формированию кружков первой помощи и вовлечению в них широких масс трудящихся женщин. Следует отметить одно весьма важное постановление об организации районных кружков, исключительно с составом из делегаток, дабы впоследствии через них понести идею кружков первой помощи в гущу женщин у себя на предприятиях.

Минокружком, не ограничиваясь работой в городе Минске, перебросил эту работу и на район, где уже созданы два кружка и несколько находятся в стадии организации.

Занятия в кружках проводятся по программе, изложенной в брошюре З. Соловьева „Кружки Первой Помощи" с некоторыми дополнениями и изменениями. Первые касаются го-

родских кружков с дополнением по анатомии и физиологии 4—6 часов; вторые больше всего относятся к районным кружкам на селе, поскольку об'ективные условия места не позволяют строго держаться в рамках единой программы. В последнюю пришлось немного внести „санпросветского элемента“, усиливая программу лекциями на темы по социальным болезням.

В зависимости от общей нагрузки слушательниц, занятия в кружках ведутся 1—2 раза в неделю по 2 часа. В целях оживления и большей наглядности при занятиях широко применяются всевозможные наглядные пособия, устраиваются экскурсии в дом Санпросвета Красной армии, где имеется хорошо оборудованный химкабинет, в Пастеровский Институт. Практические занятия по десмургии проводятся в местном военном госпитале под руководством госпитального хирурга.

Что-же касается кадра врачей-лекторов, то до последнего времени они комплектовались из среды военных врачей с оплатой их труда. Ныне ведутся переговоры о выделении ЦБ врачсекции кадра врачей-общественников для проведения работы в кружках безвозмездно.

Резюмируя вышеотмеченное, следует признать: первые организационные трудности преодолены; приобретен некоторый опыт; учтены промахи и дефекты в постановке работы; впереди широкие перспективы по подготовке и накоплению санперсонала для нужд обороны страны.

Наростание общественного внимания и интереса к этой работе Красного Креста бесспорно усилит движение по ликвидации санбезграмотности населения на основе максимальной активности и самодеятельности.

Психологическая мобилизация на этот участок краснокрестной деятельности подводит прочный фундамент под военную работу Красного Креста.

**Н. Левинтов.**

---

# Конкурс на лучшую ячейку Бел. О-ва Красного Креста.

Вопрос об организации и работе краснокрестных ячеек является новым. До последнего времени ему уделялось недостаточно внимания. Белорусское О-во Красного Креста, идя в этом отношении впереди других братских организаций, сконцентрировало свое внимание на работе ячейки, как на основе всей организации. В результате—за короткое время создано большое количество ячеек, как в городе, так и в

деревне; разработан целый ряд материалов, положений, инструкций и т. д.

На 3-м Пленуме ЦК вопрос о практической работе ячеек был основным в повестке дня. Исполком Союза О-в Красных Крестов и Красных Полумесяцев СССР, признав линию Белорусского О-ва правильной в отношении ячейковой работы, поставил этот вопрос в центре внимания всех национальных О-в, входящих в Союз, на ближайшее время. На следующих сессиях Совета Союза этот вопрос будет разрабатываться специально.

В настоящее время Бел. О-во Красного Креста уже имеет возможность проверить практически свой опыт и убедиться в правильности проведения работы на местах. Центральный Комитет должен знать, как ячейки исполняют его директивы, какие новые методы работы и мероприятия принимаются ими по собственной инициативе, какие вопросы выдвигаются ячейками, по каким основным путям развивается работа их, в чем они нуждаются и т. д. Эти данные необходимо собрать для установления обмена опытом между ячейками и для установления единой системы ячейковой работы во всем Обществе.

Исходя из этих соображений, Центральный К-т Белорусского О-ва Красного Креста постановил **организовать Всебелорусский конкурс на лучшую ячейку Красного Креста.**

Результаты конкурса будут печататься в „Бюллетене". Конкурс должен явиться новым толчком к развитию работы ячеек. Более слабые ячейки должны подтянуться, наладить свою работу для того, чтобы, участвуя в конкурсе, оспаривать у более сильных ячеек первенство на премию. Конкурс должен быть закончен ко 2-му С'езду Бел. О-ва Красного Креста, который состоится в мае месяце этого года. С'езд под'итожит весь опыт работы ячеек и, основываясь на этом опыте, примет решения, по которым будет построена вся дальнейшая работа О-ва.

Ячейки, составляя обзоры своей деятельности для конкурса, должны подробно остановиться на всех сторонах дела, но главное внимание должны уделить следующим, основным вопросам своей работы.

1. Число членов ячейки; % вовлечения членов данного коллектива в члены ячейки; вовлечение жен рабочих и служащих; выборы Бюро или К-та; актив ячейки; организация ячеек в др. деревнях сельсовета или в примыкающих учреждениях или предприятиях; связь с районным или окружным комитетом О-ва; связь с местными советскими, партийными и профессиональными органами.

2. Собрания ячейки; разбор краснокрестных материалов; постановка докладов на общих собраниях; организация уголков.

3. Проведение военно-санитарной подготовки; организация военно-санитарных курсов; организация сан. команд из т. т., окончивших курсы и т. п.; работа этих команд.

4. Проведение мероприятий по улучшению санитарного состояния своего сельсовета, предприятия, жилищ членов О-ва.

5. Борьба с социальными болезнями.

6. Работа среди физкультурников и пионеров.

7. Работа по изысканию средств для деятельности ячейки. Устройство платных лекций, спектаклей, концертов и пр. Результаты. Как использовывались эти средства. Как откликалось население на мероприятия ячейки.

8. Организация ячейкой своих учреждений хозяйственного характера: производственных, торговых и пр. Проведение в них кооперативных, артельных и пр. принципов. Результаты деятельности и перспективы этих предприятий.

9. Организация полностью или частично на свои средства каких либо учреждений общественного характера, их работа и перспективы.

10. Отношение населения к работе ячейки.

11. Какие замечаются затруднения в работе ячейки.

12. Перспективы ячейки по всем линиям работы.

Центральный Комитет определил для лучших ячеек 7 премий. Премии предназначены для дальнейшего усиления работы ячеек. Они предусмотрены в денежном виде для того, чтобы ячейка могла наилучшим образом их использовать на полезную цель, например, на организацию курсов военно-санитарной подготовки, на ясли, постройку бани, радиоприемника и пр. Всего на 7 премий ассигновано 1.000 руб., которые распределяются следующим образом:

| | | |
|---|---|---|
| 1-я премия | 300 | руб. |
| 2-я „ „ | 200 | „ |
| 3-я „ „ | 150 | „ |
| 4-я „ „ | 125 | „ |
| 5-я „ „ | 100 | „ |
| 6-я „ „ | 75 | „ |
| 7-я „ „ | 50 | „ |

Немедлѐнно приступайте к активной работе!

Обзоры своей деятельности посылайте в Центральный Комитет.

*ТАВАРЫШЫ!*

*Прысылайце ў рэдакцыю „Бюлетэня" паведамленьні аб сваёй працы! Пішэце аб актыўных сяброх, якія робяць хоць малую, але жывую працу.*

*Надсылайце фотографіі вашых чырвонакрыжных устаноў, курсаў, лазьняў і г. д.*

*Пішэце аб санітарных запатрабаваньнях вашае мясцовасьці!*

# Итоги
## работы первого Пленума Минского Окружного К-та Белорусского О-ва Красного Креста.

В конце января м-ца с/г состоялся первый Пленум Минского Окр. К-та Бел. О-ва Красного Креста.

На Пленуме были представители от 9-ти райкомитетов и уполномоченные ячеек Красного Креста по г. Минску (отсутствовали представители Койдановского и Заславльского райкомитетов).

Пленум под'итожил проделанную работу Красного Креста по округу за период май—декабрь м-цы п/г и принял ряд постановлений практического характера по укреплению и широкому развертыванию краснокрестной деятельности в дальнейшем.

По отчетному докладу Окружного К-та была принята резолюция, отметившая, что Окр. Комитетом была проведена большая работа как в области общественно-гумманитарной деятельности,—по оказанию материальной, медицинской и иной помощи беднейшему крестьянскому населению, так и по распространению идей и оформлению райкомитетов и ячеек Красного Креста на местах.

Общее направление работы К-та как в городе, так и в районах Пленум признал правильным, выдержанным и последовательным.

Всего имеется членов О-ва по округу на 1/I 1927 г. 5.528 чел. Причем ячеек Красного Креста имеется 54, из них 30 в гор. Минске и 24 по районам и с/советам.

Окр. К-том выдано денежных пособий бывш. беженцам, политэмигрантам, лицам, впавшим в нужду, и израсходовано на содержане Общества гумманитарных учреждений всего—8.805 руб. 49 к.

Двумя зуболечебными кабинетами оказана медпомощь 2.322 крестьянам исключительно в с/советах и 3-м школам.

Антропометрическим кабинетом обслужено более 2.000 пионеров в гор. Минске.

Обслуживаются 2 дома для бывших беженцев, в количестве более 100 человек.

По докладам райкомитетов было отмечено, что некоторые из них приступили к оказанию материальной помощи беднейшим крестьянам, изыскивая местные средства. Так например: Острошицко-Городецким Райкомитетом выдаются ежемесячно пайки на усиленное питание детям беднейших крестьян. В том-же районе ячейкой Красного Креста, при санатории „Красный Октябрь" открыт кооперативный ларек, каковой дает прибыли 200—250 р. в м-ц. На эти средства указанная ячейка приступает к открытию тубдиспансера для крестьян и детской площадки.

По соглашению с соответствующими организациями в указанном районе производится добровольное начисление на билеты в кино (1 к. на билет) в пользу Красного Креста.

При помощи Червенского Райкомитета открыт медпункт в Реванчи и оказывается медпомощь врачами—членами Красного Креста, путем выездов в отдаленные с/советы.

Были устроены лотереи и кружечный сбор, давшие 183 р. 72 к. дохода.

В том-же районе развернула свою деятельность воинская ячейка Красного Креста, каковая издала на свои средства памятку демобилизованным красноармейцам.

Были отмечены также и слабые стороны в работе как окружного, так и райкомитетов Красного Креста.

Пленум прошел очень оживленно под знаком дальнейшего организационного укрепления райкомитетов и ячеек Красного Креста на местах и расширения общественно-гуманитарной деятельности в деревне и в городе.

**Кикоин.**

---

# ОФІЦЫЯЛЬНЫ АДДЗЕЛ.

## Тлумачэньне да балянсу ЦК Беларуск. Т-ва Чырвонага Крыжу на 1-ае кастрычніка 1926 г.

Балянс Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу на 1-е кастрычніка 1926 г. трэба лічыць пятым балянсам ад пачатку яго працы.

Разглядаючы гэты балянс, як вынік працы мінулага году, а таксама і сучасны грашова-матар'яльны стан ЦК Т-ва, неабходна зазначыць, што сумы актыву й пасыву балянсу маюць склад такі самы, як і мінулыя балянсы, за выключэньнем капіталаў у прадпрыемствах, якія сьпісаны Акруговым Камітэтам і ў балянсе ня лічацца:

Актыў складаецца: 1) **грашовыя вартасьці** як у касе, так і на бягучым рахунку—26.519 руб. 41 кап., альбо 42,8%. Гэты процант гаворыць, што Т-ва знаходзіцца ў добрым становішчы ў сэнсе забясьпекі сродкамі; далей мы ўбачым, што гэтыя грошы належаць касе, як капітал вайскова-санітарнага фонду;

2) далей маем: **каштоўныя паперы,** якія складаюцца з аблігацый як першага, так і другога выйгрышных займаў; каштоўнасьць іх з бягучымі і тэрміновымі купонамі па наміналу роўна—1.224 р. 02 к., ці—2%;

3) **тавары і матар'ялы:** у склепе ЦК засталіся ад зьліквідаванага „Гандлёвага Аддзелу“ з 23/24 г. каштоўнасьцю на 262 р. 90 к., апрача таго астача фуражу і іншых матар'ялаў транспарту на 1-е кастрычніка роўна 61 р. 31 к., а разам—324 р. 21 к., альбо 0,5%;

4) **інвэнтар:** абсталяваньне канцэлярыі, бялізна і транспарт у суме 3.164 р. 09 к.; у Калінінскім Акруговым К-це дом і пуня—2.574 р.; розная маемасьць вэндыспансэру на суму 97 р. 24 к. і маемасьць вайскова-санітарнага фонду на суму 4.500 р., а разам інвэнтару маем на суму 10.335 р. 31 к., ці 16,8% да балянсу, што трэба лічыць реальнай вартасьцю, бо на 1-е кастрычніка гэты інвэнтар быў перагледжан Камісіяй і ацэнены;

5) **дэбіторы** складаюцца з сум:

а) акруговым камітэтам адпушчана ў пазыку на кароткі тэрмін—10.721 р. 84 к;

б) за Акруговымі Грашовымі Аддзеламі не атрыманыя грошы па відовішчах і пашпартных рэгаліях, а таксама цыгуначныя рэгаліі за мінулыя месяцы на 1-е кастрычніка ў сумме 9.518 р. 28 к.;

в) **розныя асобы** на гэты дзень павінны 3.038 р. 29 к.;

г) **астача грошай у асоб,** якія атрымалі пад справаздачу—141 р. 47 к. і

д) **пераходныя сумы,** якія маюць транзітны характар дзеля атрыманьня і перадачы як прадпрыемствам, так і асобам—74 р. 80 к., а разам з дэбіторамі—23.494 р. 68 к., альбо 37,9%, якія трэба лічыць реальнай вартасьцю на ўсе 100%.

Агульная сума актыву роўна 61.897 р. 63 к.

Гэта будзе ўся тая каштоўнасьць, якую мае Цэнтральны Камітэт.

Пасыў па балянсу сьведчыць, што сродкі актыву належаць:

1) капіталам вайск.-санітарнага фонду ў суме 28.917 р. 05 к. альбо 48,4%, якая складаецца з адпаведнай актыўнай сумы маемасьці на 4.500 р. і астачы грашмі на бягучым рахунку;

2) крэдыторы: маюць атрымаць ад ЦК:

розныя асобы 2.106 р. 40 к., акруговыя к-ты—697 р. 45 к. і стары доўг з 23/24 г.—21.990 р. 49 к., а разам 24.794 р. 34 к.— 40%;

3) згодна выніковага рахунку на 1-е кастрычніка ЦК мае астачу прыбыткаў у суме 7.186 р. 24 к. ці 11,6%.

З гэтых лічбаў бачым, што балянс на 60% складае маемасьць ЦК і толькі 40% ЦК павінен заплаціць іншым рахункам, што трэба лічыць з боку матар'яльна-грашовага становішча ЦК вельмі добрым.

Разгледзіўшы балянс на 1/Х 26 г., у першую чаргу можна запытацца: „якія-ж мы маем дасягненьні за год працы?" На гэта можна адказаць, калі параўнаць лічбы двух балянсаў— балянс мінулага году на 1/Х 25 г. з гэтым балянсам, тут мы ўбачым, што агульная сума гэтага балянсу пры аднолькавай пабудове, павялічана на 36.754 р. 39 к., ці на 59,4% мінулага балянсу.

У канчатковым выніковым рахунку мінулы балянс уключыў дэфіцыт на 8.683 р. 54 к., тады як цяпер мы маем астачу прыбыткаў трохі менш гэтай сумы, а ў агульным рахунку трэба лічыць, што раней ЦК працаваў на пазычаныя сродкі і з боку ліквіднага быў у вельмі цяжкім становішчы, а ў сучасны момант ён вышаў з гэтага тупіку і мае 60% агульнай сумы свайго капіталу, ці 37.103 р. 29 к.

Далей ідзе „рахунак дэфіцыту". Да гэтага часу ў балянсе гэты рахунак зьяўляўся неабходным, бо без яго ня было ў ЦК магчымасьці ўраўняць актыў з пасывам, цяпер-жа мы маем такое палажэньне, што рахунак дэфіцыту нам не патрэбен і ўзамен яго мы маем ужо „рахунак астачы прыбыткаў". Пры гэтым

трэба мецъ на ўвазе, што гэты выніковы рахунак ні ў якім выпадку нельга злучыць з рахункамі прыбыткаў, а таксама і выдаткаў таму, што другія два рахункі маюць значэньне толькі на суму опэрацыйнага году, тады як выніковы рахунак дэфіцыту альбо астачы прыбыткаў ёсьць канчатковы выніковы рахунак і мае значэньне на ўсю агульную суму балянсу; ён дае зусім іншыя астачы і другія сумы ў канчатковых выніках у сваіх запісах. Запісы яго ў мінулым справаздачным годзе складаюцца з лічбаў па дэбэту. Дэфіцыт на 1 кастрычніка 1925 г.—8.683 р. 54 к.

Розныя сьпісаньні па зьніжэньні каштоўнасьці інвэнтару і перадачы часткі акруговым камітэтам роўна—3.678 р. 53 к. Розныя сьпісаньні па разрахунку з прадпрыемствамі і інш. складаюць суму 530 р. 56 кап.

Па актыву балянсу на 1/X—25 г. лічым няпэўных даўгоў ад мінулага 23/24 году на суму 2.572 руб. 11 кап. Гэтая сума разгледжана Рэвізыйнай Камісіяй і зацьверджана пастановай 2-га Пленуму ЦК для сьпісаньня з балянсу. Усяго па дэбэту—15.464 руб. 74 кап.

Па крэдыту гэтага рахунку маем запісы павышэньня каштоўнасьці і лішак інвэнтару, а таксама і матар'ялаў на суму 470 р. 51 к. Далей сьпісаны даўгі акруговым к-там на суму 92 р. 33 к. і пералічана астача па рахунку выдаткаў 22.088 р. 14 к., а разам лічым 22.650 р. 98 к., з якой сумы і маем астачу прыбыткаў па балянсу 7.186 руб. 24 кап.

*Увага:* Праз выніковы рахунак прайшлі сумы астачы прыбыткаў за мінулы організацыйны год. Агульны-ж зварот па прыбытковаму рахунку быў у суме 93.314 р. 34 к., а па выдатковаму—80.495 руб. 23 кап., на якія будзе дана асобная справаздача пры падлічэньні ўсіх сум Т-ва.

Астача прыбыткаў у суме 7.186 руб. 24 кап., згодна заключэньня Рэвізыйнай Камісіі, а таксама пастановы Пленуму, залічана на ўзмацненьне каштарысу бягучага году.

**І. Асятроў.**

